Przesyłka opłacona ryczałtem.

Год II. Лістапад 1931 г. № 3 (6).

# Сьветач Беларусі



№ 3 (6) Сьветача Беларусі прысьвечаны семдзесяцьгодзьдзю народзінаў і дваццацьпяцьгодзьдзю культурна-грамадзкае працы старшыні Цэнтр. Бел. Правасл. Камітэту гр. Тодара Вернікоўскага.

Цана нумару 35 гр.

Вільня.

Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая вул. № 22.

ГОД II. ЛІСТАПАД 1931 г. № 3(6)

# Сьветач Беларусі

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыіі: Вільня, Летняя 12—3

# Ад Рэдакцыі.

Як усе дзеці роўныя перад бацькам, гэтак сама і ўсе людзі роўны перад Богам. Усе мы дзеці аднаго Бацькі. Праўда, ня ўсе мы аднолькава выконываем волю нашага Бацькі, ёсьць сярод нас і сыны блудныя, аднак да ўсіх нас Ён аднолькава прыхільны, кожны з нас аднолькава яму любы. Калі выконываем Яго волю і сьвятыя загады, то мы зусім слушна можам гардзіцца Яго бацькаўствам і сваёй працаю для Яго. Нашы зямныя і хвілёвыя перакананьні не датычачыя Яго асобы Ім ня прыймаюцца пад увагу. Усіх гэты Бацька ў роўнай меры кахае, а тым больш тых, хто свае кволыя сілы і працу аддае Яму і для Яго ўслаўленьня. Свае сілы і сваю працу ў працягу свайго доўгага жыцьця аддаў Найвышэйшаму Бацьцы і Т. Вернікоўскі, стары барацьбіт за Сьв. Праваслаў'е і Законы Хрыстовы. Яшчэ выходзячы хлапчуком маленькім з хаты ён ужо тады ведаў як трэба змагацца і чаму трэба змагацца з ворагамі Хрыста. Яго бацькі і родныя былі байцамі Хрыста. Ад іх ён і пераняў гэтую барацьбу, якую пасьля вядзе няўтомна і трывалка ўжо сам.

У найцяжэйшыя хвіліны жыцьця свайго ён барацьбы гэтае ня кідае, а якбы яшчэ больш да яе заахвочываецца. Прайходзіць дзяцінства, прайходзіць моладасьць і дасьпеласьць, прыходзіць старасьць і ён усьцяж змагаецца з адвечным злом і ворагамі Хрыста. Як ні цяжка яму на старасьць ён аднак сьмела і адважна на семдзесятым годзе свайго жыцьця становіцца на чале Ц. Б. П. К. каб супольнымі і арганізаванымі сіламі працаваць на карысьць Царквы і Яе верных, хоць праца гэтая аплецена аднымі цернямі. У семдзесяты год яго жыцьця, Рэдакцыя горача вітаючы сапраўднага сына Сьвятое Царквы, шчыра жадае Яму тое, аб чым ён заўсяды просіць Найвышэйшага Бога як верны і адданы слуга Хрыста, як верны і кахаючы сын Маці Беларусі.

РЭДАКЦЫЯ

# Слава старому змагару!

Падставаю жыцьця кожнага Народу зьяўляецца Вера і Нацыянальнасьць. Тыя, што думаюць жыцьцё Народу будаваць на іншым грунце, аддаляюць Народ ад ідэалу самастойнасьці і незалежнасьці, і таму зьяўляюцца народнымі ворагамі.

Праца на грунце рэлігійна-нацыянальным цяжкая наагул, а ў нашых варунках—гэта шлях крыжовы.

Куды не павернешся—усюды ворагі—і скрытыя і аткрытыя!

Праца на грунце нацыянальным спатыкаецца з магутным інтэрнацыяналізмам ці шовінізмам іншых нацыянальнасьцяў. Праца на грунце праваслаўным —з масонствам, з бязьверрам, сэктанствам, з іншымі вераваньнямі. А колькі-ж ёсьць неакрэсьленых рэлігійных і нацыянальных палітычных інтрыганаў, якім ня было-бы мейсца ў грамадзянстве, калі-б яго жыцьцё было якраз пабудавана на грунце рэлігійна-нацыянальным, а якія пры сучасных варунках лік ворагаў гэтага напрамку што-раз больш зьвялічываюць.

Ня гледзячы на гэтую вялічэзную раць варожых сілаў не пабаяўся дзядзька Тодар, ведамы гр. Вернікоўскі, на 68 годзе свайго жыцьця выбраць крыжовы шлях працы на грунце рэлігійна-нацыянальным. Жыцьцё і доўгая грамадзкая праца ў кожнай галіне пераканалі яго, што гэты шлях пры сучасных варунках ёсьць адзіна магчымым, ідучы па якім Беларускі Народ асягне сваю Зямлю Абяцаную — сваю Незалежнасьць. Да гэтае працы гр. Вернікоўскі быў добра прыгатаваны сваім паходжаньнем з духоўнае сям'і, спэцыяльнай адукацыяй, не адным выступленьнем у мінулым на гэтым шляху, а рэлігійнасьць яго ўсім добра ведама.

Маючы на мэце цеснае супрацоўніцтва з Дух. Уладай гр. Т. Вернікоўскі заручыўся багаслаўленьнем арх. Хвядоса, з якім яго лучыла яшчэ школьнае знаёмства і ўспаміны, і вядзе падгатоўку да ўтварэньня Ц. Б. П. К. Трэба зазначыць, што ўся гэтая падгатоўка вялася гр. Вернікоўскім з ведама і са згоды арх. Хвядоса. Аднак-жа па незразумелым прычынам у апошнюю хвіліну арх. Хвядос ня толькі адмовіў у багаслаўленьні, але нетактоўна і абражліва адазваўся аб гр. Вернікоўскім перад духавенствам, якое зьвярнулася да яго за багаслаўленьнем на ўдзел у зьезьдзе.

І вось пры такіх варунках 14 сакавіка 1930 г. у Вільні адбыўся зьезд прадстаўнікоў бел. прав. грамадзянства і арганізацыяў, на якім быў закладзены Цэнтральны Бел. Прав. Камітэт і яго Прэзыд'юм з 12 асобаў на чале з старшынёю Т. Вернікоўскім.

Сваю працу Зьезд распачаў і закончыў малітваю.

На прывітальную тэлеграму ад імя Зьезду Блажэньнейшаму Владыцэ Мітрапаліту была атрымана ад Владыкі гр. Вернікоўскім тэлеграма з падзякай.

Як зазначана ўжо было вышэй Камітэт меў на мэце цеснае супрацоўніцтва на грунце рэлігійна-нацыянальным з Духоўнаю Уладай дзеля ўзмацаваньня Праваслаў'я сярод Бел. Народу, але на вялікі жаль ня так яно сталася.

Першыя крокі старшыні Камітэту гр. Вернікоўскага ў напрамку да згоднае грамадзкае працы на ніве Сьв. Праваслаў'я выклікалі вялікую варожасьць з боку тых, на помач якім ён

гатоў быў аддаць усе свае сілы.

Праз субсыдыяваную Эпарх. Уладаю газэту „Наша Жизнь“ павялася нячуваная траўля і ілжа на гр. Вернікоўскага. Быў дадзены загад духавенству эпархіі выносіць пастановы аб адлучэньні гр. Вернікоўскага ад Царквы, няраз ён быў і правакаваны. Так змагаліся сябры іудэйскага Сынэдрыёну са сваімі працоўнікамі.

Не адну бязсонную ночку правёў дзядзька Тодар над балючым пытаньном: за што? Няраз з яго старых вачэй ліліся сьлёзы, выкліканыя запытаньнем: дзе праўда? Няраз жудаснаю больлю сьціскалася яго старае сэрца з маліцьвеннаю просьбай да Ўсевышняга аб падтрыманьні!

Ня гледзячы на надзвычай цяжкія варункі, гр. Вернікоўскі, як старшыня Камітэту вёў працу па зьбліжэньню духавенства з народам, ачышчэньню духавенства ад найболей шкодных адзінак, па абароне ўцісканага духавенства, хто-бы ня быў прычынаю гэтага ўціску.

І пры гэтых цяжкіх варунках стары змагар не губляе надзеі дайсьці да паразуменьня і згоднае працы з мяйсцоваю Дух. Уладаю, але яго спробы ў гэтым напрамку разьбіваюцца аб злую волю ці бязвольле і халоднае як камень, бяз хрыстовае любові, сэрца іншае старое асобы.

Найцяжэйшы пэрыяд працы на грунце рэлігійна-нацыянальным ужо закончываўся перамогаю Старога Змагара. Аднак ідэя супольнае працы і ўзгадаваньня Народу на гэтым грунце напалохала і зварухнула атэістычна—масонскія элемэнты, якія здрадніцкі працягнулі свае брудныя рукі каб крывадушна задушыць гэтую справу, каб нягодна яе спрафанаваць.

Але вялічэзная і нязломная вера ў перамогу Хрыста над адвечным злом, вера ў правату свае працы дасьць гр. Вернікоўскаму сілы для перамогі і гэтага ворага.

Сапраўдную ацэнку працы і каханьня так вялікага да Царквы і Народу дадзе гісторыя!

Мы, жадаючы Старому Змагару за лепшую будучыню Бел. Народу ў 70-угодкі яго жыцьця здароў'я і сілаў, за яго шчырую і гарачую адданасяць Царкве і Народу скажамо—Слава Старому Змагару!

**Прэзыд'юм Ц. Б. Пр. Камітэту.**

# Тодар Вернікоўскі

(Біаграфічны нарыс)

Тодар Вернікоўскі, сын Міхася і Ганны з Занцэвічаў, радзіўся 11/24 лістапада 1861 г. у мястэчку Дудзічы ў Меншчыне. Бацькі яго паходзілі і самі былі цесна зьвязаны з духоўным званьнем. Спачатку Тодар Вернікоўскі вучыцца ў м. Дудзічах у народнай школе У 1870 г. паступае ў духоўныя сяреднія школы. У 1878 г. выяжджае ў Пецярбург для атрыманьня вышэйшае адукацыі. Брат яго, Клімент Вернікоўскі канчае Духоўную Акадэмію, пастрыгаецца ў манахі а пасьля быў хіратанісаваны ў архірэі. Быў сябрам Сьвяцейшага Сыноду. Ад 1881 г. Т. Вернікоўскі працуе на пошце, праз нейкі час у Гаспадарчым Сялянскім Банку а затым у экспэдыцыі па асушцы Палескіх балотаў, дзе ўжо працуе ў працягу 27 гадоў.

У гэты пэрыяд быў службова выдэ-

легоўваны ў Паўночны і Паўдзённы Каўказ, Крым, Семіпалацінскую і Семірэчынскую вобласьці, Сібір, Цэнтральную Расею, Нямеччыну, Аўстрыю, Бэльгію, Італію, Гішпанію, Англію а нават і ў Амэрыку.

З 1905 г. бярэ дзейны ўдзел у беларуска-адраджэнскім руху, сутыкаючыся з ужо працуючымі Карскім, Эпімах-Шыпілай, Зайцам, Бурбісам і інш. З гэтага часу Т. В. ужо не пакідае працы на адраджэнскай ніве. У 1917 г. выбіраецца Сябрам Рады Бел. Нар. Рэспублікі і кіраўнікам па справам бежанцаў (кабінэт Яз. Варонкі, № 310 дн. 29. IV.



18 г.). У ліпні 1918 г. выбіраецца Дзярж. Скарбнікам Нар. Сэкр. Б. Н. Р. (кабінэт Скірмунта, № 950/а дн. 12. VII 18 г). Затым у кабінэце Серады выбіраецца (Парт. С.-Р.) Міністрам Гандлю і Прамысловасьці, Міністрам Гаспадаркі і Дзярж. Кантралёрам у Нар. Сэкр. Б. Н. Р. Камандзіруецца ў Кіеў дзеля паліт.-эканамічных перагавораў і закладзінаў Бел. Гандл. Палаты, кіраўнікамі якой вызначаюцца Доўнар-Запольскі і Завітневіч, і Консульства. Апрача работы дзяржаўнае бярэ ўдзел у працы грамадзка-культурнай, як старшыня Культ.-Прасв. Т-ва „Заранка“, Т-ва „Бел. Хатка". Кіруе сытніцай для бедных і дзіцячымі прытулкамі. Арганізуе Бел. Нар. Тэатр, дзе і працуе пасьля, бел. коопэратывы ў Менску, закладае Бел. Царк. Брацтва. У 1919 г. выбіраецца сябрам Цэнтр. Рады Горадзеншчыны і Віленшчыны (№ 57 з дн. 3. VII. 19 г.). У Менскім Нац. Камітэце выбіраецца Кір. Тэатр Камісіі і Скарбнікам Прэзыдыуму. У 1920 г. выбіраецца Скарбнікам Бел. Вайск. Камісіі і Кіраўніком яе Гаспад. Аддзелу. Пасьля пераезда ў Вільню ў 1921 г. прымае на сябе абавязкі Загадчыка і Скарбніка Бел. Кооп. Складніцы „Краёвая Сувязь“ (№ 146 з дн. 22. VIII. 21 г.). У 1922 г. выяжджае ў м. Радашкавічы, дзе разам з іншымі закладае Т-ва Бел. Школы і Бел. Гімназію, дзе выконвае абавязкі Інспэктара, а пасьля за адсутнасьцю і Дырэктара Гімназіі (№ 64 з дн. 4 студ. 23 г.). Адначасна працуе як абаронца Праваслаў'я і яго духавенства, востра выступаючы супроць ворагаў Праваслаў'я (Радашкавічы, Маладэчна, Уша, Краснае, Гародзькі і інш. мясц.). У 1925 г. выбіраецца Старшынёю Сэкр. Бел. Нац. Рады м. Ушы, закладае гурткі Т-ва „Прасьветы" і ўрэшце ў 1927 г. выбіраецца Сябрам Прэзыдыюму Цэнтр. Рады Т-ва „Прасьветы“. Надзвычай дзейна працуючы ў ім, Т-ва ў 1927 г. налічывае 84 гурткі.

У гэтым-ж годзе ўваходзіць, як сталы прадстаўнік „Прасьветы“ ў Камітэт Беларускіх Радных.

У траўні 1928 г. выбіраецца Старшынёю Акружнай Рады Т-ва „Прасьветы“.

Праз гэты час быў рэдактарам і выдаўцам шмат якіх бел. газэтаў. У 1930 г. на зьезьдзе праваслаўных беларусаў у Вільні выбіраецца Старшынёю новазакладзенага Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту па Беларусізацыі Царквы, дзе працуе і да апошніх дзён.

Вось той кароткі нарыс жыцьця Т. Вернікоўскага, якое было сапраўды нязвычайным. Чалавек гэты ніколі ня даўся перамагчыся напасьцям будзённага жыцьця, якое, можа за яго дзейнасьць і гарачасьць, гатавала яму адны няпрыемнасьці і мукі. Лёс гэтага асаблівага чалавека, быццам над ім зьдзекаваўся. Аднак ён сваёй няўтомнай і ўпорнай працай перамагае ўсялякія перашкоды і ні на хвіліну не звальнае тэмпа сваёй працы.

Вас. Б.

# УСПАМІНЫ

Справа беларусізацыі Царквы была прычынай майго збліжэньня з дзядзькай Тодарам. Да гэтага часу я яго асабіста ня ведаў, хоць па чуткам быў мне вядомы даўно. Праўда, чуткі гэтыя ня былі вельмі карыснымі для яго, аднак веручы заўсяды ў амбіцыю чалавека а тымбольш беларуса, да чуткаў гэтых я адносіўся вельмі крытычна, сказаўшы сабе, што найлепш аб іх праўдзівасьці пераканаюся калі сам асабіста пазнаю дзядзьку бліжэй. Першае запазнаньне і гутаркі ў справе працы для нашае Царквы і Народу мяне вельмі зьдзівілі. Чалавек гэты з такім піетызмам і каханьнем гаварыў пра Царкву і Народ, што я ніяк ня мог зразумець, чаму і з якіх прычын дзядзьку гэтак распісывалі ў прэсе за яго быццам здрадніцтва і няшчырасьць.

Гэтак як ён мог гаварыць і думаць толькі такі самы малады студэнт як я і іншыя ў маіх гадох і змаімі парывамі і лятуценьнямі. Замест закідыванага яму „полёнофільства“, „дэфэнзыўства“ і іншых сяньня вельмі модных і популярных закідаў, я ў першы раз спаткаў сапраўдны тып беларуса, з яго дзіцячапрастадушнай хітрасьцю, з шчыра-ветлівай вясёласьцю, з наіўнай скрытасьцю і недаверрам, з прымітыўна-хітракавым паняцьцем спосабаў жыцьця. Робленыя закіды дзядзьцы і пабачанае, я ніяк ня мог злучыць ў адно суцэльнае і таму пастанавіў зрабіць гэта крыху пазьней з думкай пабачаньня дзядзьку ў супрацоўным высілку ў нашай акцыі. Ажно неяк раз разгаварыўшыся з ім я неспадзеўкі пачаў пытаць яго з якіх пабудак ён прыстаў да такзванай „полёнафільскай” групы. І вось, што мне тады адказаў дзядзька.

— „Ня вер братачка таму, што я запрадаўся няпрыхільнікам нашага Народу! Людзі цюцікі брэшуць, бо за гэта грошы бяруць а я ад ворага грошы ня браў і ня буду браць. Калі-ж я братачку зьблізіўся з палякамі. то каб гэткім чынам дапамагчы свайму Народу. Ты малады і табе гэта ня можна рабіць, ты Народу дапаможаш маладым запалам і гарачасьцю а я ўжо на гэта за стары, мне трэба шукаць іншыя на гэта спосабы, больш спакойныя, я ўжо стары чалавек. Аднак усе мы братачка, як хто можам павінны дапамагаць і будзіць наш Народ. Эх, каб я быў малады дык ня гэткую кашу заварыў-бы — людзі на сьценку палезьлі-бы. Ты думаеш, што мне прыемна на старасьць кланяцца? Але нічога ня зробіш братачку, гэта ўсё для дабра Народу, а людзі цюцікі-сабакі, ня слухай вельмі ты іх“!

Ня стрываў я аднак на гэтым і запытаў яго яшчэ, як гэта ён кажа, што ня браў грошы а ўсе ў гэтым быццам перакана{ны і нават пішуць у газэтах.

„Хто аб гэтым піша, адказаў мне тады дзядзька, той брэша, бо я зламанага граша ні ад кога не атрымаў. Іншая рэч, што я атрымліваў канцэсіі розныя, аднак гэта ня былі грошы, бо каб іх мець я мусіў як вол працаваць бяз выпачынку. А ўрэшце на што ты аб гэтым пытаеш, калі ты баішся, што я цябе прадам, дык пакінь мяне старога і рабі сваё. Я-ж з сваім „палянафільствам“ ні перад кім ня скрываюся, можа я гэта ня добра раблю, аднак кожны па свойму разумее працу і спосабы дапамажэньня Народу. Ды ўрэшце чаму-ж з вас ніхто мне не працягнуў рукі, каб ісьці іншай дарогай а толькі кожны лаяў і травіў мяне?

Вы-ж маладыя і лепш ар‘ентуецеся што і як рабіць а я стары і таму памылак мог шмат нарабіць. Усе вы добрыя цюцікі! Ворагі нас сумысьля адзін на аднаго натраўляюць, каб мы пасварыліся і ніколі не дайшлі да згоднага і аднафронтнага супрацоўніцтва а вы ім у гэтым памагаеце. Я стары і то гэта зразумеў а вы маладыя і гэтага ня бачыце. А хто кажа, што я каго прадаваў ці браў за гэта грошы хай скажа публічна а то гэтак брахаць то не вялікая штука“.

Прызнаюся, што сорамна мне зрабілася змушаючы старога чалавека, каб ён перадамной спавядаўся. Ды відаць даўна набалелая ў яго старых грудзях скарга на людзкую несправядлівасьць абудзіла ў ім жаданьне адкрыць душу і шчыра сказаць тое, што ён ня лёгка перажываў.

„Ты вось, казаў ён далей, слухаеш усіх тых, што мяне лаюць і глядзіш на мяне, як на нейкага правакатара. А ці ты прыгледзіўся да тых, што сапраўднае сваё воблічча прыкрыўшы беларускасьцю і лаючы мяне, Народ наш прадаюць сапраўды за юдавы срэбнікі. Я нікому яшчэ жыцьця не зламаў, я заўсяды для беларуса быў абаронцам, а яны на сумленьні маюць шмат ахвяр і ніхто гэтага нябачыць і ўважае іх за людзей добрых. Пра свой шлях я гавару аткрыта і калі пабачу, што ён ня добры і не дае мне магчымасьці дапамагчы Народу ці знайду іншы лепшы шлях, то я заўсяды яго змяню, бо мне з ім нічога не вяжа. Мяне хоць і лаюць, але калі здарыцца з кім бяда дык зараз да мяне лятуць і я нікому і ніколі ў сваёй дапамозе не адмовіў. Праўда, мяне і маё прозьвішча часта і шмат хто правакаваў і выкарыстоўвываў ды што-ж я параджу, ня было ў мяне заступнікаў, ніхто мяне не хацеў зразумець. Так братачка, хай сабе людзі мяне лаюць, Бог з імі, на то яны цюцікі, калісь можа хтось і зразумее маю працу і мяне, а не зразумее таксама добра. Я перад сваім сумленьнем чысты і ніякага асуду не баюся. Вось хай-бы хто змог глянуць мне ў душу, той напэўна пабачыў-бы як сапраўды выглядае дзядзька і аб чым ён лятуцее. А што я мо слабы і ня змог ісьці напралом, то ўжо мяне такім узгадавалі і ўрэшце я ўжо стары, братачка. Ды напасьледак хай я вам, маладым, буду прыкладам як трэба ўмець цярпець і любіць сваіх і якія шляхі барацьбы за наш Народ Вам трэба выбіраць.

Сумна, і цяжка, памятаю, закончыў дзядзька Тодар свае разважаньні. У яго маленькіх вачох заірдзеліся празрыстагоркія сьлёзы, а галава цяжка апусьцілася на ўсхваляваныя грудзі. З партрэтаў неяк дакорна на мяне глядзелі вабразы амаль усіх нашых пісьменьнікаў.

Мінула ад тае гутаркі шмат часу. Сяньня я пераканаўся, што яна ня была пустаслоўнай. Дзядзька Тодар знайшоўшы новы шлях працы для дабра Народу, сьмела стаў на яго і трывалка і зацята ідзе па ім, сваім запалам ня раз задзіўляючы мяне маладога. Ня гэтак даўна дзядзька сказаў мне неяк — „ці памятаеш, як калісь я перад табой спавядаўся, ну што, ты цюцік, які я — прадаю людзей ці не? Маўчыш!?“. І сапраўды я маўчаў, бо бачыў, што даўшы магчымасьць узыйсьці гэтаму чалавеку на іншы шлях перамогі, а ня лаючы яго закрыўшы вочы, ён гэтак працаваў і з такой любасьцю, што прыходзілася дзівіцца, а не рабіць яму закіды. Тым больш, што працу нашу і нас будуць ацэніваць нашы браты ў тым заўтра, якое мы ім будуем, а заўтра гэтае, як дзядзька сказаў, нідзе ня дзенецца!

**С. Сарока.**

---

Нічога так не зьвязана з імем Т. Вернікоўскага, як Т-ва „Прасьвета” і Беларускі Камітэт па самаўрадавым справам, асабліва-ж першае. Паміж імі існуе такая глыбокая і відавочная сувязь, што адно акрэсьліваецца другім і наадварот. Як нельга гаварыць аб агні, каб у той-жа самы час ня думаць аб цяпле, так нельга гаварыць аб цяпле, як нечым адарваным ад агню. Таксама і тутака: як толькі прыдзе на думку дзядзька Тодар, дык у той-жа самы час зьявіцца ў думках і Т-ва „Прасьвета“ і Самаўрадавы К-т і наадварот.

Вось аб Т-ве „Прасьвета” і аб Самаўрадавым Камітэце я і хачу высказаць тое, што чуў ад самога дзядзькі Тодара і іншых людзей тры гады таму назад.

Заснавана Т-ва „Прасьвета“ 10 лістапада 1924 году. Сярод закладчыкаў „Прасьветы“ няма аднак Т. Вернікоўскага; там значацца Ус. Більдзюкевіч, В. Шышкоў і М. Краўцоў, але гэта ні крыху не змяншае значэньня дзядзькі Тодара ў Т-ве, наадварот, робіць яго яшчэ больш вялікшым і паважнейшым. Сапраўдныя закладчыкі Т-ва „Прасьве-

ты“ толькі апрацавалі і ўлажылі яе статут ды рэгулямін, а працы па арганізацыі гурткоў Т-ва зусім не вялі; яны больш цікавіліся палітычнымі справамі, а на культурна-прасьветнае разьвіцьцё народу амаль зусім не зьвярталі ўвагі. Яны нават не парупіліся стварыць з сябе і сваіх прыхільнікаў гуртка Т-ва „Прасьветы“ ў самой Вільні!

Т-ва як-бы чакала нейкай сілы, каторая-бы скіравала працу і энэргію на іншы грунт, як-бы чакала кагось, хто перад вачыма распалітыкаванага грамадзянства выкрасіў з душы беларускага народу новыя імкненьні да нечага вышэйшага за палітыку. І вось гэтай сілай, гэтым волатам аказаўся дзядзька Тодар.

У той час, калі на палітычным беларускім грунце йшла зацятая барацьба „Грамады” з іншымі беларускімі палітычнымі партыямі за ўплывы ў народзе, у той час, калі „Грамада” сваімі палітычнымі і культурна-прасьветнымі гурткамі захапляла вёску за вёскай і паланіла душу за душою—дзядзька Тодар жыў сабе на вёсцы і назіраў сялянства, пільна прыглядаўшыся да яго настрояў, да яго патрэбаў і імкненьняў. Ён як-бы правяраў свае шматгадовыя досьледы над душою народу, каб у пэўны час магчы станоўча і верна праводзіць новыя думкі. А „Грамада“ расла... Усюды, куды прыходзіў „грамадаўскі“ піянэр—„Грамада“ чулася панам палажэньня. Здавалася, ня было ня толькі вёскі, але ніводнага чалавека, каторы ня быў-бы сябром „Грамады”. Змагалася з „Грамадою“ асабліва востра Беларуская Нацыянальная Партыя, каторая і кіравала тады працаю Т-ва „Прасьветы“. Бел. Нац. Партыя не глядзела, што § 2 статуту „Прасьветы казаў:

„Таварыства стаіць вонках усіх палітычных партыяў; адзінай яго задачаю ёсьць разьвіцьцё беларускіх школ і беларускай прасьветы нагул”—

але запрагла яе ў свае аглоблі і паехала закладаць гурткі „Прасьветы“ ў процівагу „грамадаўскім” гуртком. А з гэтага выйшла толькі адна кампрамітацыя Бел. Нац. Партыі.

У гэты цяжкі для Бел. Нац. Партыі час нехта з яе сяброў успомніў аб дзядзьку Тодары, як чалавеку далёкім ад моднай у той час палітыкі і здаровым ад таго палітычнага дуру, каторы ахапіў усіх бел. дзеячоў. Пачалі прасіць дзядзьку Тодара прыняць удзел у палітычным змаганьні, пасылалі пісьмы, а нават езьдзілі дэлегаты, але дзядзька вельмі палюбіў вёску й яе народ і ня думаў прыяжджаць у Вільню на „палітыку“. Але калі Нац. Партыя запрапанавала дзядзьку Тодару прыняць удзел у працы Т-ва „Прасьвета“ — ён неадкладна сабраўся і прыехаў. Было гэта ў ліпні 1926 годзе.

Як чалавек, які быў праз даўжэйшы час інспэктарам Радашкаўскай Бел. Гімназіі і таму знаёмы з выхаваўчай працай, знаўшы спосабы дзеяньня на людзкія душы ў кірунку інтэлектуальнага разьвіцьця—дзядзька Тодар становіцца дарадчыкам у галоўным кіраўніцтве Т-ва „Прасьветы“. Дагэтуль праца па арганізацыі гурткоў Т-ва „Прасьветы“ давала зусім нязначныя вынікі, хоць на гэта трацілася шмат энэргіі і матэр'яльных сродкаў. А прычына гэтага была ў тым, што закладаліся яны бюракратычным спосабам: кіраўнікі сядзелі сабе ў Вільні і толькі пісалі сваім вясковым знаёмым з Бел. Нац. Партыі каб яны закладалі гурткі „Прасьветы“...

„Ах, вы, цюцікі кажа дзядзька Тодар—ці-ж гэтак працаваць? Чаго-ж вы туляецеся па Вільні, чаго вы хаваецеся ад народу? Чаму вы ня пойдзеце пад саломеную страху пагутарыць з селянінам аб сваёй працы? Чаму вы баіцёся спрабаваць, ці верыць вам народ“?

І ніхто з кіраўнікоў „Прасьветы“ не адважыўся пайсьці паказаным праз дзядзьку шляхам. Яны толькі адважыліся папрасіць дзядзьку Тодара зрабіць тое, што ён казаў. Поўны шчырых імкненьняў і гарачага запалу да культурна-прасьветнае працы сярод народу дзядзька Тодар прымае просьбу, аднак з варункам працаваць толькі гэтак, як акрэсьлена ў § 2 статуту Т-ва. Атрымаўшы на гэта згоду, дзядзька едзе на вёску і там распачынае працу па арганізацыі гурткоў „Прасьветы“:

„Ты думаеш, цюцік, казаў мне неяк

дзядзька, лёгка было рабіць „Прасьвету“, калі кругом была „Грамада—у жывым і ў мёртвым... Зірнеш на вёску — ,,грамадаўская“, сустрэнешся з селянінам — „грамадавец“. Здавалася паветра і тое пахла ,,Грамадою“... Ну, вось, ня верыш... Прыяжджаеш на станцыю ўночы. Пуста, глуха, цёмна... Ніхто цябе не спатыкае, усё табе незнаёмае, чужое... Але трэба працаваць! Ну вось і ідзеш у вёску, кілёмэтраў 10 а то 15, баязліва вакол азіраючыся і прыслухоўваючыся... Нарэшце вёска... чужая, поўная нечага таёмнага, а людзі, братачка—намолішся, напросішся, пакуль пусьцяць у хату... Ну, а калі ўжо пусьцілі ў хату, дык палова работы зроблена. Пагутарыш, пагаворыш з гаспадаром хаты аб сім, аб тым, глядзіш ужо сьмялей пытае ён пра тое, што найбольш яго цікавіць, яшчэ крыху—і гаспадар пераходзіць на гутарку выключна аб беларускай справе і нават суседа пакліча паслухаць... Далей, болей.. не заўважыш, як зьбярэцца гурток сялян і засыпаюць цябе пытаньнямі. Калі-ж яны яшчэ інстынктыўна адчуюць ў тваёй гутарцы хоць крыху нечага, што можа папravіць іх дабрабыт—дык ты іхны чалавек і прападае ўжо, як дым тая скрытнасьць і падазронасьць, якімі яны спатыкаюць цябе першы раз... Вось гэтым і карыстаешся і прапануеш ім нешта рабіць, але не паасобку, а супольна, агульнымі сіламі.—Вось гэтак і паўставалі гурткі „Прасьветы“. А то бывала яшчэ і так... Ідзеш дарогаю, наганяе цябе падвода з сьвяшчэньнікам ці з вучыцелем... Просішся пад'ехаць да вёскі... Прыяжджаеш з імі ў школу... Вучыцель ці сьвяшчэньнік у школу—рабіць сваё, а я астаюся перад школаю і раблю сваё — гутару з сялянамі, каторыя прышлі паглядзець, хто прыехаў і што прывёз вучыцель ці сьвяшчэньнік... Гэтак, братачка, хутчэй нешта зрабіць, бо сяляне больш хінуцца да цябе, калі бачаць, што справа як-бы вяжацца з вучыцелем або з сьвяшчэньнікам.

Ня гледзячы на мае сівыя валасы і на знаёмства душы сялянскай, а цяжка было закладаць ,,Прасьвету“. Галоўнаю перашкодаю ў гэтым быў яе статут, каторы вымагаў аж 10 чалавек для закладзінаў гуртка... Каб укладалі яго людзі знаёмыя са справаю, дык бы гэтага не ўвялі-бы, а то што? Пісалі яго бюракраты, каторыя раней мусіць не вялі ніякай арганізацыйнай працы сярод сялян. Але я, братачка, усё пакапаў. Вось як было, цюцік ты... А яны на вёсцы хацелі закладаць ,,Прасьвету“ проста з Вільні, размахам пяра... Не, сабакі, вы пайдзеце на вёску, пабудзьце бяз хлеба іншы раз падрыжэце ад холаду і страху, панюхайце вясковага паветра,—дык і зразумееце, як дапяць таго, чаго вам хочацца... Вось як, братачка“...

Праца для ,,Прасьветы“ валачыла дзядзьку Тодара па самых глухіх кутках Віленшчыны, Горадзеншчыны і інш. мясцовасьцях і дзе толькі ён быў, усюды запальваў у людзях жар да навукі і культуры. Часта бывала гэтак, што побач з гуртком ,,Грамады“ у якой-небудзь вёсцы дзядзька Тодар закладаў гурток ,,Прасьветы“, а былі выпадкі, што мясьціліся яны пад адною страхою. Вынікам яго ахвярнай і ўмелай працы было залажэньне аж 84 гурткоў ,,Прасьветы“.

Былі яны і ў Баранавіцкім павеце, і Валожынскім, і Ваўкавыскім, і Вялейскім, і Горадзенскім, і Лідзкім, і Маладэчанскім, і Наваградзкім, і Нясьвіскім, і Стаўпецкім, і Слонімскім і іншых. Амаль пры кожным гуртку былі адчынены бібліотэкі чытальні, каторыя, дзякуючы надзвычайным стараньням дзядзькі Тодара перад Нацыянальнаю Беларускаю Радаю, атрымалі кніжкі і стала імі папаўняліся. Вартасьць кніжак перасланых у бібліотэкі ў 1927 годзе выносіла: 2943 зл. 90 гр.

Апрача бібліотэк-чытальняў, пры некаторых гуртках былі заснованы спартыўныя (футбольныя і іншыя) групы, музыкальныя кружкі, тэатральныя трупы.

Бачучы творчую і ўмелую працу дзядзькі Тодара, Цэнтральная Рада Т-ва „Прасьветы“ ў 1927 годзе прыняла яго ў лік сяброў Прэзыдыюму. Будучы на гэтым становішчы дзядзька Тодар яшчэ з большым запалам аддаўся працы для каханай сваёй ,,Прасьветы“... Езьдзіў на мейсцы, высьвятляў спорныя пытаньні,

уціхамірываў антаганізмы, падбіраў бібліотэкі, заахвочваў да працы на сцэне і г. д. Гурткі „Прасьветы“ чулі над сабою памагаўшую ім ува ўсім руку дзядзькі Тодара, адчувалі яго бацькаўскую апеку і як-бы ў падзяку за гэта пры арганізаваньні Акружнай Рады Т-ва „Прасьветы“ на Віленскае ваяводзтва, выбралі яго старшынёю. Было гэта 24 траўня 1928 году.

Дзядзька Тодар такім чынам быў нагароджаны за сваю працу на культурна-прасьветнай ніве сярод беларускага народу. І каб хутка пасьля гэтага не наступілі цяжкія часы для беларускай справы наагул, дык дзядзька Тодар яшчэ шмат чаго зрабіў-бы для каханай ім „Прасьветы“ і шмат чаго зрабіў-бы сваёю „Прасьветаю, для любімага ім Беларускага Народу.

Побач з культурна-прасьветнаю працаю, якая, як я казаў вышэй выявілася ў закладаньні гурткоў Т-ва „Прасьветы“, дзядзька Тодар неўзацемкі для сябе вёў яшчэ грамадзкую, каторая дала багатыя вынікі летам 1927 году падчас выбараў у Самаўрады. Закладаючы „Прасьвету“, дзядзька Тодар у гутарках з сялянамі парушаў ня толькі чыста культурныя справы, але гаварыў з імі аб справах грамадзка-гаспадарчых, аб сэрвітутах, аб камасацыях, аб коопэрацыі і наагул аб розных недахопах беларускай вёскі. Гэтыя гутаркі хоць і былі цесна зьвязаны з культурна-прасьветнаю справаю, але сяляне моўчкі несьвядома выдзялялі іх у васобную групу і ў духу думалі выявіць іх, калі прыдзе на гэта адпаведны час. Калі ў якой вёсцы самі сяляне не закранывалі гэтых пытаньняў, дык дзядзька Тодар умелым спосабам сам закранаў, і тут-жа высьняў іх. Выясьняў не тэорэтычна, а практычна на жывых прыкладах у той ці іншай вёсцы. Скажам, адна вёска судзілася з панам за сэрвітут—дзядзька Тодар гутарыў аб сэрвітуце, другая камасавалася—тлумачылася сялянам пра камасацыю, трэцяя мела малачарню — гаварылася аб коопэрацыі, чацьвертая мела неўраджайную зямлю—гаварылася аб спосабах падняцьця ўраджайнасьці і г. д. І так ня толькі гутарылася аб тых зьявішчах грамадзка-гаспадарчага жыцьця, каторымі цікавілася вёска ў дадзены час, але парушаліся і другія, меўшыя нешта супольнае з першымі. Трэба было мець багаты запас веды, каб належна і зразумела выясьніць усе пытаньні, якія потым, як аказалася, акрэсьліліся паняцьцем „самаўрадавыя справы“. І ўсё гэта, як я казаў, рабілася зусім несьвядома, бяз ніякага пляну, бяз ніякай прадузятай думкі, рабілася гэта нагэтулькі, наколькі трэба было разварушыць сялянскі розум да культурна-прасьветнай працы, бо дзядзька Тодар толькі закладаў „Прасьвету“, зусім ня думаючы, што будуць некалі нейкія выбары ў Самаўрады.

Але надышло лета 1927 г., прашлі выбары ў Самаўрады, і на зьдзіў самым-жа беларусам, беларусы далі ня толькі значны працэнт гмінных радных, але спаміж іх былі нават войты, заступнікі войтаў і сябры павятовых соймікаў. Цяпер толькі стала відаць, што беларускі народ зразумеў, якой дарогаю йсьці да лепшае долі... Але слава таму, хто накіраваў яго на гэтую дарогу, ці хоць здалёку, можа намёкам, паказаў яе!

Калі 6—7 лістапада 1927 году радзіў у Вільні І-шы Зьезд Беларускіх радных, дык у склад яго сталага Камітэту быў выбраны дзядзька Тодар, як прадстаўнік ад Т-ва „Прасьвета“. Выбар гэты сьведчыў, што дзядзька Тодар заслужыў на такую чэсьць сваёй працаю на самаўрадавым грунце.

Як ведама І-шы Зьезд радных апрацаваў шырокую рэзалюцыю, закрануўшую ўсе патрэбы беларускага народу ў грамадзка-гаспадарчым і культурна-прасьветным жыцьці. Бяз сумліву, апрацаваньне гэтай рэзалюцыі хіба-ж ішло пад бліжэйшым наглядам дзядзькі Тодара, як знаўцы вясковага жыцьця і яго недахопаў.

Рэзалюцыя гэтая закранула зямельную рэформу, у яе найкарысьнейшым і найбольш выгадным правядзеньні для беларускага селянства. Узялася тут пад увагу і камасацыя, і хутарызацыя, і мэліорацыя, і доўгатэрміновыя пазычкі, і запамога ў адбудаваньні сялянствам

сваіх гаспадарак, і закладаньне спажывецкіх і вытворчых коопэратыўных арганізацыяў, і пазычкава-сялянскія банкі, паказальныя гаспадаркі і шмат іншага, недахоп чаго так адчувае нашае сялянства. Рэзалюцыя гэта закранула пытаньне і культурна-прасьветнае, дамагаючыся наданьня правоў для бел. сярэдніх школаў і сталых урадовых дапамогаў ім, адчыненьне катэдры беларусазнаўства пры Віл. Унів., спыненьня разбуру бел. школьніцтва (Клецкая гімн.), адчыненьне бел. вучыцельскіх сэмінарыяў і пэдагагічнага Інстытуту, наданьне правоў бел. вучыцялём і нявысыланьне іх за межы Зах. Бел., адчыненьне бел. гаспадарча-тэхнічных і рамесьляных школаў і т. д. Словам, калі-б хоць часткова былі выкананы гэтыя рэзалюцыі палажэньне нашае шмат палепшала-бы. І вось ува-ўсім гэтым самы дзейны і гарачы ўдзел браў дзядзька Тодар, жадаючы шчыра дапамагчы свайму Народу. У. П—і.

# Малітва

## (Папупярны нарыс)

,,Маліся не маліся а ўсё роўна, калі ня будзе хлеба то і малітва не дапаможа". Вось тая аргумэнтацыя, дзякуючы якой шмат хто лічыць малітву за рэч не патрэбную. Асабліва нашая моладзь чамусьці да малітвы адносіцца вельмі няпрыхільна або ўважае, што зусім хопіць калі сходзіш пастаяць у Царкву ды ня будзеш забіваць і красьці, каб ужо быць чыстым і бяз граху. Трэба дапусьціць аднак, што гэтыя няпрыхільнікі малітвы хіба ніразу не прызадумаліся глыбей нашто нам дана малітва і чаму яны яе адкідаюць або, што такое малітва і якое яе значэньне ў жыцьці духовым чалавека. Бо-ж калі чалавек прыкладам адкідае нейкую зужытую рэч, то робіць гэта дзеля таго, што яна зужытая. Калі чалавек адкідае свае нейкія прызвычаеньні то ізноў таму, што даходзіць да пераканаsuccessiveньня, што яны былі ня добрыя ці ня зусім адпаведаючыя сяньняшняму дню. І так маем скрозь і ўсюды. Аднак калі гэта датычыць малітвы то цікава якія тут глыбейшыя прычыны таго, што цураюцца а некаторыя дык быццам нават саромяцца малітвы. Калі робяць таму, што Іван ці Міхал гэтага ня робяць, дык вельмі слабая прычына, бо Іван ці Міхал напрыклад любяць нос выціраць рукавом, а гэта ня доказ, што ўсе людзі таксама павінны ня хустачкай а рукавамі выціраць насы. Калі гэта робяць таму, што малітва не дае навочных вынікаў і карысьцяў, то прычына такая каб не маліцца слабая, бо калі дзіцянё ў школе вучаць у шытку выпісываць нейкія кручочкі, то напэўна яно карысьцяў з гэтага ніякіх наразе ня бачыць і куды ахвотней пайшло-бы пагуляць у поле, каб мець прыемнасьць адразу. Калі ня моляцца таму, што часу нехапае, то ізноў прычына вельмі сьмешная, бо ніхто дзеля недахопу часу не адмовіць сабе ў марнаваньні часу на ежу. Калі ізноў малітву лічаць можа ня моднай і таму непатрэбнай, то таксама прычына зусім дзяцінная, бо як хлеб і вада ніколі ня выдуць з моды то як-жа малітва, гэтыя хлеб і вада душы, можа быць ня моднай.

Дык якая-ж прычына, што людзі адкідаюць малітву? Прычына тут адна. Людзі ня хочуць зразумець і не разумеюць, што такое малітва.

Хіба кожны пераканаўся, што калі яму сумна ці вясёла то ён ахвотна сьпявае. Запяеш і прайходзяць боль і сум і весялей становіцца на душы.

Праўда, некаторыя дык з гора і тугі ідуць у карчму на гарэлку, але-ж усё роўна выходзяць адтуль найчасьцей пяючы. Жнейкі ў полі сагнуўшыся ў

крук на сонечнай сьпякоце чамусь любяць зацягнуць песьню. У старыну дзікія людзі калі перамагалі свайго ворага, ці дзякавалі сваім багом за іх ласку то песьнямі і скокамі вакол вогнішчаў „маліліся“ і ўслаўлялі сваіх багоў. Відаць чалавек ня будзе шчасьлівы, калі толькі як нейкая жывёліна добра пад‘есьць і выспіцца. Чалавек апроч кішок мае яшчэ і несьмяротную душу, якая заўсяды тужыць і рвецца да некага, каго ані рукой ня ўхопіш, ані вокам ня згледзіш. Душа нашая часамі як-бы вычувае блізасьць гэтага кагось, і тагды чалавеку неяк весяла і хочацца жыць і ўсё так люба да яго сьмяецца. Чалавек пачынае пяяць. Ізноў часамі здаецца і сыты і ўсё добра а на душы, як гавораць, неяк цяжка і маркотна. Чалавек пачынае пяяць. Каб ізноў праз песьню стала весялей, каб ізноў пачуць блізасьць Таго, хто гэтак добра дзеіць на нашае самапачуцьцё. Але каб гэта было, трэба каб песьня была надзвычай прыгожай.

Аднак песьня заўсяды астанецца творам слабога і смяротнага чалавека. Песьню несьмяротную можа скласьці толькі Той, хто сам несьмяротны і хто сваёй несьмяротнасьцю зблізіўся з Тым, хто жыве ў нашай несьмяротнай душы. Песьню такую, куды не павернешся так і хочацца яе запяяць. Хрыстос прыйшоўшы на зямлю забараніў Апосталам сваім адганяць ад сябе дзяцей, якія з песьнямі і кветкамі да Яго гарнуліся. Дзеці гэтыя найлепш вычулі ў Хрысьце Таго, хто гэтак радасна пануе ў іх чыстых душачках і дае ім дзяцінную радасьць і яе песьні. І вось Хрыстос дае людзям Сваю Песьню. Малітва —Песьня, каторую чалавек будзе заўсяды казаць і каторая заўсяды будзе на часе, каторая гэтак несьмяротна як несьмяротны і Сам Хрыстос. І першыя хрысьціяне, хаваючыся галодныя і абдзёртыя ў падзямельлях Рыму, уцякаючы ад зьдзекаў і глуму яго паноў, горача і захоплена пяюць Малітву Хрыстову—Отча наш... Шмат з іх ідзе на сьмерць і мукі за Хрыста, аднак Яго малітва ня сходзіць ім з вуснаў. І яны з Песьняю Хрыстовай на вуснах перамагаюць той вялічэзны Рым, які быў панам усяго сьвету. Малітва Хрыстова распаліла ў іх сэрцах моц і веліч і яны перамаглі. Сьвятыя Айцы і Мучанікі вычуваючы праз свае гарачыя малітвы блізасьць Хрыста прарочымі вуснамі даюць людзям новыя малітвы, якімі чалавек можа славіці веліч Хрыста і прасіці сабе падмогі. І Хрыстос Найсьвяцейшы, хто з малітваю да Яго зьвяртаецца, заўсяды кожнага выслухае і дасьць тую моц, каторай жменька хрысьціян у Рыме перамагла яго цароў і палачоў. Аднак малітву Хрыстос не даў чалавеку, як нейкія грошы за якія і хлеб і шчасьце да цябе з неба самі зыйдуць. Хрыстос даў малітву, каб пры помачы яе чалавек натхнуўся сілаю і вытрываньнем і сам здабыў, сваімі сіламі тое, да чаго імкнецца.

Малітва—гэта шлях да разьвіцьця свайго вытрываньня і велічы, шлях, які неамыльна пры гарачай веры заўсяды дае перамогу. Малітва—гэта тое натхненьне, якім чалавек упрыгожывае шэрасьць свайго будзённага жыцьця. Малітва—гэта моц нявідзімая Хрыста, з якой чалавек ніколі не загіне, якой мы паступова можам зламаць усе загароды на дарозе да Хрыста. І хоць мы ня бачым, аднак Хрыстос да таго хто моліцца ўсьцяж зблiжаецца і працягвае Свае Сьвятыя далоні, каб нас падтрымаць, як Апостала Пятра, які з лодкі кінуўся ў мора на спатканьне Хрысту і не затапіўся. Да каго-ж Хрыстос зблізіцца той напэўна ў моры жыцьцёвым не загіне, той напэўна дойдзе сьмела і горда да берагу сваёй перамогі. Хто-ж ня моліцца, той аддаляецца ад Хрыста, ад таго аддаляецца і Хрыстос. І ніякія грошы, і ніякая слава зямная не дадуць шчасьця і духовага задаваленьня. Людзі, якія чураюцца малітвы, чураюцца — Хрыста. Хрыстос нікога гвалтам да шчасьця ня змушае. Хто гэтае шчасьце сам пажадае і хоча, той Шляхам Хрыстовае Малітвы заўсяды яго асягне, а Хрыстос, які сам горача маліўся, шчасьце гэтае толькі хутчэй прыблізіць.

С. С.

# Агляд „Слова“

Ад кастрычніка г. г. газэта „Слово“, выдаваная ў Варшаве і друкаваная ў Сынадальнай друкарні, пачала зьмяшчаць на сваіх старонках артыкулы ў беларускай мове. Гэтага мы не можам ня прывітаць, бо да гэтай пары кіруючыя колы Праваслаўнага Духавенства цураліся ўсяго беларускага.

Толькі мы думаем, што ў нашай Віленскай эпархіі газэта ,,Слово“ надта сабе гэтым пашкодзіла. Бо ў нас духоўная ўлада моцна карае сваіх падуладных за ўсялякую праяву беларускасьці, і нам думаецца, што прыходскі сьвяшчэньнік атрымаўшы газэту ,,Слово“ і ўбачыўшы ў ёй надрукаванае пабеларуску адстраху зачыніць усе дзьверы і вакяніцы, калі будзе чытаць яе, а газэту потым схавае куды-небудзь далёка, каб не адказываць перад сваёй уладай за карыстаньне недазволенай літэратурай.

Беларуская мова ў газэце ,,Слово“ паказвае, што выдаўцы яе нарэшце прызналі, што дзесь там, на ўсходніх крэсах Польшчы аднак жывуць беларусы, якім, каб яны шчыра і добра зразумелі, трэба гаварыць мовай беларускай, мовай матчынай, Можа гэта трохі навучыць і нашую духоўную ўладу, якая беларусаў не прызнае. Арх. Хвядос дык нават адкрыта заявіў прадстаўнікам беларускага грамадзянства, што „никакихъ бѣлоруссовъ нѣтъ, что это все выдумки. Бѣлоруссы — тѣ же русскіе“.

Шкада толькі, што газэта „Слово“ замест таго, каб аслабіць той антаганізм, які пануе сярод беларускага грамадзянства і кіраўнікамі духоўнага жыцьця ў нашай эпархіі, распачынае, як гэта раней рабіла расейская газэта ў Вільні ,,Наша Жизнь“ палеміку з адзінай беларускай праваслаўнай арганізацыяй на Беларусі.

Газэта ,,Слово“ ўжывае той самы тэрмін, як калісь гэта рабіла ,,Наша Жизнь“—,,самазваны камітэт“.

Праўда, седзючы ў Варшаве і маючы аб нас інфармацыі ад людзей аднабакова разважаючых, трудна разабраца, што гэта за Камітэт і скуль ён узяўся? Праваслаўную справу на нашых землях беларускае грамадзянства лічыць за сваю нацыянальную справу. У той самы час кіраўнікі Віленскай Духоўнай Кансысторыі лічаць Праваслаў‘е—рускай верай.

Усё беларускае ў нашай эпархіі ў загоне.

Антаганізм паміж вернымі-беларусамі і іх духоўнымі пастырамі дайшоў да таго, што народ стаў глядзець на свайго сьвяшчэньніка толькі, як на выканаўцу абрадаў Праваслаўнай Царквы. Такое анармальнае палажэньне вядзе да ўпадку Праваслаў‘я.

З другога боку нашая духоўная ўлада мала цікавілася палажэньнем Праваслаў‘я на Беларусі, жывучы пад дэвізам: хоць дзень, ды мой!

Патрэбна было выступленьне новага дзейніка, адданнага Сьв. Праваслаў‘ю, адданнага справе беларускай.

І такім дзейнікам зьявіўся Ц. Б. П. К., выбраны на агульна-беларускім Праваслаўным Зьезьдзе ў Вільні 14 сакавіка 1930 году.

Што на гэтым зьезьдзе прысутнымі былі толькі міране, так гэта ня віна ініцыятараў зьезду, а віна арх. Хвядоса, які не даў багаславеньня духавенству на прыняцьце ўдзелу ў гэтым зьезьдзе.

На зьезд сабраліся прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў і прадстаўнікі ад усіх эпархіяў у Заходняй Беларусі.

Стаючы на грунце нацыянальна-рэлігійным Ц. Б. П. К. у ,,Сьветачы Беларусі“ павёў барацьбу з тым неадпаведным кірункам, які запанаваў у духоўным кіраўніцтве на Беларусі.

,,Праваслаўны Беларус“ з газ. ,,Слово“ чамусь выхапіў з цэлага артыкулу аб вуніі—частку, дзе чыста аб‘ектыўна праводзілася думка, што, калі вунія пойдзе на спатканьне ўсім нацыянальным дамаганьням беларускага народу, то прыдзецца задумацца з кім яму ісьці.

Бо Праваслаўнае высшае духавенства нашай эпархіі ўпорна не прызнае за беларусамі права на нацыянальнае адраджэньне народу, права мець духаўніком свайго беларуса, права ў Царкве слухаць сваю родную мову.

Нам упорна навязываюць у Царкве расейшчыну, як у постаці духаўніка, так і, у пануючай сярод нашага духавенства, расейскай мовы.

Ц. Б. П. К. не цягне ў вунію, як гэта піша „Праваслаўны Беларус“, а толькі зусім паважна і шчыра перасьцерагае Праваслаўнае духавенства, што ворагі Праваслаўя не сьпяць, што яны змогуць падыйсьці да душы беларускага селяніна, і што тады справу Праваслаў'я на Беларусі трэба будзе лічыць зліквідаванай.

Можа газэта „Слово“ ня ведае, што ў проціўвагу Ц. Б. П. К. стварыўся беларуска-літоўскі Камітэт для пашырэньня каталіцкай акцыі на Зах. Беларусі і часткова выразіцелем думкі якога ёсьць ворган Беларускай Хрысьц. Дэмакратыі (кат.) „Беларуская Крыніца“.

У гэтым Камітэце ня толькі каталікі, а шчырыя нацыяналісты-беларусы, і яны, пры яўнай нэгацыі справы беларускай з боку праваслаўнага духавенства, пры яго варожасьці да ўсяго беларускага, злучаюць беларускую справу з вуніяй, якая ахвотна можа пайсьці на ўсе нацыянальныя дамаганьні беларускага грамадзянства, злучаюць з пабудак чыстых, вялікае любові да Хрысьціянства і свайго Народу.

Не ў палеміку з намі трэба ўваходзіць, а лепш супольнымі сіламі пайсьці на змаганьне з ворагамі Праваслаў'я, бо кіраўнікі тутэйшага духоўнага жыцьця, ня здольныя зразумець усю павагу наступіўшай хвіліны, ўпорна вядуць барацьбу з усім, што беларускае, і нарэшце давядуць сьв. Праваслаў'е ў нас да поўнай ліквідацыі.

У. Б.

---

# Саюзьнікі

Ня гэтак яшчэ даўно прыходзілася нам пісаць аб тэй бруднай рабоце, якую вялі айцы Кушнёвы жадаючы здэскрэдытаваць Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт. Не перабіраліся тады гэтымі айцамі ніякія спосабы, усё, што толькі можна была ўжыць і выкарыстаць — была ўжыта. Жудасна часамі рабілася, бачучы што выпраўлялася людзьмі ўзьдзеўшымі расы і крыжы, якія замест працы на карысьць Праваслаўя, дзеля сваіх асабістых карысьцяў і амбіцыяў, Праваслаўе дапталі і нягодна пазорылі. Як Камітэт і прадбачыў, гэтая бэзнаказнасьць і прафанацыя зварушылі і асьмелілі ўсе цёмныя сілы, якім залежыць на разбурэньні Сьв. Праваслаў'я і наагул Хрыстовага веравучэньня. Ужываныя айцамі Кушнёвымі гвалты, подступы, ашуканствы і правакаваньні ўсіх, хто ім мог зашкодзіць у іх нягоднай рабоце, сяньня даюць свае плады і то вельмі і вельмі багатыя. Не гаворучы ўжо аб Каталіцтве і Вуніі, якім работа гэтых айцоў была больш чым на руку, на Праваслаў'е і Царкву пачалі пасягаць і бязьверра, і сэктанства, і масонства, словам з усюль вылазючыя – з цёмных закуткаў і гібельнай цемры, гіены зла і хаосу. Аднак і гэта айцоў Кушнёвых не запалохала а нават дадала ім адвагі і яшчэ вялікшае дзёрзасьці, бо пры помачы гэтых начніцаў пачалі дзеля сваіх амбіцыяў вазстанаўляць сябе ў сваёй колішняй моцы, пачалі з дзяцьмі чорнае ночы бруднымі рукамі хапацца за сьвятоесьвятых праваслаўнага беларуса. Як вяліка гісторыя беларускае Царквы, гэткае ганьбы і пазору, гэткае прафанацыі пачуцьцяў Народу сваім духаўніком, няведала і хіба што ня будзе ведаць. Як цяжкія хвіліны ў жыцьці нашае Царквы ня бывалі, аднак ніколі ня было выпадку, каб на нашых землях духаўнік—слуга Хрыстовы братаўся з масонствам, найпэрфіднейшым і найбольш зацятым ворагам Хрыста і Хрысьціянства. На гэта маглі пайсьці хіба толькі

айцы Кушнёвы, якія каб дацягнуць некалькі гадоў да атрыманьня ўрадовае эмэрытуры і паказаць сваю моц, сказалі сабе, што можна Хрыстоваму пастыру працягнуць руку дзіавалу. Як не балюча і ня сумна, аднак трэба сказаць, што часова чорныя сілы айцам Кушнёвым дапамаглі. Айцы Кушнёвы сяньня яшчэ ўсьцяж трыумфуюць, няглeдзячы на тое, што працэс С. Сарокі сказаў усяму сьвету, хто такія гэтыя духаўнікі, як яны брудны і нізка паўшы. Айцы Кушнёвы сяньня ўсьцяж яшчэ трыумфуюць, бо слаўныя беларускія „патрыархі і змагары" пайшлі ім на спатканьне, пайшлі „бараніць" Праваслаў'е.

І хоць гэтыя людзі маральна палі яшчэ ніжэй чым айцы Кушнёвы, і хоць гэтыя людзі на каленах поўзалі і на службах мэтадыстаў, і перад вуніятамі, высылаючы ім на ўзгадаваньне дзяцей праваслаўнага беларуса, хоць гэтыя людзі ў сваім масонскім атэізме даходзяць да цынізму, людзі гэтыя на заклік айцоў Кушнёвых сяньня пайшлі „бараніць" Праваслаў'е. Чыстасьць гэтых людзей зусім яскрава сказалася ў апошнія часы і проста гідка робіцца пры думцы, што ня ведаючы іх сапраўды, чалавек калісь спакойна падаваў ім руку. І гэтыя людзі сяньня спазнаўшы роўных сабе айцоў Кушнёвых маняцца працаваць для Праваслаў'я. Але забыліся яны, што беларускі Народ ня гэтулькі выняс і перажыў, дык перажыве і гэты глум і зьдзек. Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт перамог ужо столькі выступаў і атакаў айцоў Кушнёвых, што напэўна пераможа і гэты, бадай ужо апошні. Камітэт мог маўчаць калі не датычыла іх работа Сьв. Праваслаў'я, але напэўна ня будзе маўчаць калі яны будуць брузгаць наш Найсьвяцейшы Скарб, так як збрузгалі і справакавалі беларускі Народ і яго сьвятыя ідэалы, так як калісь справакавалі сотні беларускіх дзяцей і правакуюць іх сяньня. Іх брудныя рукі, іх нягодныя хаценьні і імкненьні ўсім беларусам добра ведамы, і таму абурэньне агульнае будзе пратэстам на гэту яшчэ адну іх нягоднасьць. Рука справядлівасьці сяньня ўжо дасягнула слаўнага кумпана айцоў Кушнёвых Валэйшу, дасягне яна і гэтых новых „абаронцаў" Праваслаў'я, дасягне нарэшце, у што мы нязломна верым, і айцоў Кушнёвых. Бо ўсёроўна ня сяньня то заўтра іх „абарона", Праваслаў'я пакажа свой фактычны твар, сваё сапраўднае вобліча разьедзенае бруднасьцю і маральнай пустотай.

Камітэт ужо два гады самаахвярна вёў і вядзе барацьбу з гэтай нячыстотай за Сьв. Праваслаў'е, павядзе ён яшчэ два другія гады, аднак нарэшце пераможа гэту напасьць і скажа Народу якім ён быў і хоча быць. А што гэта прыдзе, мы верым, бо Камітэт ідзе ў барацьбу з верай у Хрыста і шляхам праўды а яго ворагі з верай у дзіавала, шляхамі закуліснай нячыстоты, завочнай маны, шляхам гвалту і нягоднасьці.

В. Борвіч.

---

# ХРОНІКА

У канцы кастрычніка г. г. у Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт былі перасланы Дырэкцыяй Віл. Бел. Гімназіі і Бел. Дабрадзейным Т-вам паведамленьні аб адкліканьні сваіх прадстаўнікоў з Камітэту. Бел. Дабр. Т-ва так загаляпавалася, што нават ужывае гэткі сказ: ...адклікаць прадстаўнікоў Дабрадзейн. Т-ва з т а к з в а н а г а Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту...". Пытаньне, нашто Дабрадзейнае Т-ва, лічачы Ц. Б. П. К. „так званым", пасылала туды сваіх прадстаўнікоў, каб пасьля іх адклікаваць. Дабр. Т-ва і Гімназія відаць зусім забыліся, што паслаць ня значыць быць прынятым і выйшла, што адклікаюць сваіх прадстаўнікоў зтуль, дзе іх ня прынялі і таму дзе іх ніколі ня было. Гэта мы

ўбачым з адказаў гэтым інстытуцыям Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту з дн. 27. X. 31 г. № 63/31 і № 64/31, уматываваных выпіскай з пратаколу № 8/31 паседжаньня Прэзыд'юму Цэнтр. Бел. Прав. Кам. з дня 14 сакавіка (!) 1931 г. Выпіска гэтая кажа:

„...Пастаноўлена: лічучы школьнае выхаваньне магчымым карысным толькі пры варунку абаперця гэтага на грунце рэлігійна-этычным і нацыянальным у процістаўнасьць сучаснаму выхаваньню вучняў Віл. Бел. Гімназіі, а гэта дзякуючы ўплыву на іх некаторых пэдагогаў, вытраўляючых з маладых душаў рэлігійнасьць і беларускасьць з прычынаў палітычных і рытуальных, лічыць прыняцьце ў Ц. Б. П. К. прадстаўнікоў Пэд. Рады В. Б. Г., у склад якое ўваходзяць гэткія пэдагогі, прынцыпова немагчымым. Тым больш, што маральнасьць некаторых пэдагогаў і настаўленьне да Хрысьціянства наагул зьяўляюцца вельмі падазронымі і магучымі ў кожнай хвіліне прыбраць формы скандалічнае развязкі. II) Сьцьвярджаючы адносна Бел. Дабр. Т-ва тыя самыя закіды да яшчэ большага ліку асобаў, сяброў успомненага Таварыства і не падзяляючы абсалютна яго прынцыпы, маем тут на ўвазе не прынцыпы дабрадзейнасьці, лічыць прыняцьце прадстаўнікоў у Ц. Б. П. К. ад Бел. Дабр. Т-ва за зусім выключаючаю магчымасьць...",

Пасьля вышэй прыведзенага кожны зразумее, што Камітэт прадстаўнікоў гэтых ня меў і ня мог мець. А справа ў тым, што віл. бел. паліт. „князькі" вядомыя масоны, за ўсялякую цану стараюцца з дапамогай вядомых з працэсу 22 верасьня айцоў здэскрэдытаваць Ц. Б. П. К., каб пасьля спрафанаваць і беларусізацыю Царквы, ды на гэтым крыху зарабіць.

∽ Як падае польская і расейская прэса арх. Хвядос з Вільні пераводзіцца, замест якога мае быць вызначаны арх. Нікалай з Англіі.

Вестку гэтую трэба прывітаць, бо можа нарэшце наступіць у нашай Эпархіі даўно чаканы парадак. Трэба ведаць, што арх. Хвядос сваёй дзейнасьцю так даўся ўсім ў знакі, што некаторыя з праваслаўных (10 чалавек) праз Выш. Дух. Уладу зьвярнулі арх. Хвядосу багаславенныя граматы, якімі ён іх абдарыў. Нябачаны ў гісторыі выпадак.

∽ У апошнія часы шмат вучняў В. Б. Г. і то з старэйшых (7 і 8) клясаў адсылаецца да хатаў дзеля неаплаты імі навукі. Бывае за 10—15 зл. перарываецца васьмігадовая навука. Тымчасам ёсьць вучыцялі, як А. Лекант (муж якой працуе ў Віл. Кансысторыі), як дыр. Міхалевіч, якія атрымліваюць так вялікія сумы, што напэўна, каб далі па сто злотых то і сябе ня скрыўдзілі і ўратавалі вучняў. Відаць камусь залежыць, каб В. Б. Г. спаткаў лёс гімназіі ў Клецку.

∽ Доўгалетні працаўнік і сэкрэтар Ц. Б. П. К. С. Сарока выяжджае ў Варшаву на Тэолёгію. Факт гэты сьведчыць, якімі сымпатыямі дарыць Бел. Народ і яго сапраўдных барацьбітаў Блажэньнейшы Владыка Дзіаніс.

∽ Як даведываемся адв. Андрэеву заплачана з кансысторскіх грошаў 500 зл. за абарону сяброў Кансысторыі на працэсе 22 верасьня.

Вось куды ідуць грамадзкія грошы. Працэс гэты датычыў асабіста сяброў а не Кансысторыю.

∽ 5 г. м. Апэляцыйны Суд ў Вільні прыхіліўся да просьбы праф. Петрусэвіча, абаронцы студ. Сарокі, і згадзіўся працэс 22 верасьня разглядзець паўторна ў Апэляцыйным Судзе, аднак цяпер ужо разглядаючы яго ў дарозе арт. 474 і наст. К. П. К.

Справа гэтая будзе разгледжана 11 сьнежня г. г. а гадз. 9 ў памешканьні Апэляцыйнага суда.

∽ Згодна з загадам Віл. Куратарыум прат. Дзічкоўскі адкліканы з Віл. Дух. Сэмінарыі (ад 11. V. 31 г. № 14689). Устаноўлена, што ён самазванна прысвоіў сабе тытул акадэміка. Цікава, што гэты сьвяшчэньнік займаецца такімі рэчамі, што польская прэса параўноўвае яго да біск. Кавальскага а сабор якім ён кіруе, дык зусім запушчаны.

ꝏ Згодна з весткамі сябры Віл. Кансысторыі знайходзяцца ў праддзень дымісіі. Разам з гэтым мае быць праведзена беларусізацыя Царквы згодна з постулятамі Ц. Б. П. К. І вось сябры Кансысторыі, ратуючы свае становішчы, разам з вядомай масонскай групай віл. палітыканаў думаюць утварыць спэцыяльную інстытуцыю, каб выглядала, што „духавенства" і „бел. грамадзянства" супольнымі сіламі пачынаюць працаваць. Аднак пад „духавенствам" гэтым крыюцца скапрамітаваныя Кушнёвы і Тучэмскія а пад „бел. грамадзянствам" ня менш слаўныя Астроўскія і Міхалевічы. Як ведама, гэтыя саюзьнікі да сяньня яшчэ не зрэгабілітаваліся, бо адным і другім пастаўлены цяжкія публічныя закіды і яны іх не аправерглі.

ꝏ Па весткам у хуткім часе мае быць выдана яшчэ адна часапіс па царкоўным справам. Орган гэты маняцца выдаваць новыя „абаронцы" Праваслаў'я якія нядаўна справы царкоўныя на старонках сваёй палітычнай газэты парушаць адмовіліся. Трэба адзначыць, што сапраўды гэта будуць абаронцы не Царквы а... Кушнёва.

ꝏ Апошнім часам пры Белар. Нацыянальны Камітэце ў Вільні ўтварылася Камісія па Арганізацыі Стыпэндыяльнага Фонду для белар. студэнства. Белар. Нац. Камітэт і ўтвораная Камісія горача просяць бел. грамадзянства аб неадкладнай дапамозе бел. студэнству.

ꝏ 19 ліст. г. г. ў Луцку адбыўся Ўстаноўны Зьезд Т-ва ім. Мітр. П. Магілы. На Зьезд быў запрошаны і Ц. Б. П. К. На Зьезд перасланы прывітаньні ад Ц. Б. П. К., ад Бел. - Прав. Групы Студ. У. С. Б. і ад Хаўрусу Бел.-Прав. Моладзі.

ꝏ Адказ: Прыхаджанам Княгінінскае царквы. Просьбу атрымалі. Перашлем Яго Блажэнству Мітрапаліту. Верце, што нягодніцтва Спрогіса будзе пакарана.

# Адкрыты ліст

13 г. м. праходзячы вуліцай мяне затрымалі п. п. Я. Зенюк, А. Бартуль і А. Сакалоў, якія зажадалі ад мяне выясьненьня майго лісту зьмешчанага ў № 36 „Бел. Крыніцы". Калі я адказаў, што магу гэта зрабіць толькі не на вуліцы і пры сваіх сьведках або публічна, паны гэтыя нягодна выкарысталі сваю перавагу а затым у № 266 „Kur. Wil." п. Я. Зенюк вытлумачыў усё гэта зусім нясуменна. Па першае, супроць корпарацыі я ніякае кампаніі ня вёў, выясьненьне я згадзіўся даць і дам але не вуліцы, сатысфакцыі ад кожнага, хто мне нягодна заскочыць на вуліцы жадаць не магу, тымбольш ад чалавека, які ня ёсьць ані студэнтам, ані займае ніякага грамадзкага становішча, За тое сатысфакцыю гэту буду даходзіць шляхом судовым. Ізноў трэба сумнявацца аб этычнасьці таго, хто публічна маніць і на вуліцах нападае на людзей.

Мушу дадаць, што акцыя ўся гэта скіравана дзеля здэскрэдытаваньня мяне і цесна вяжацца з законспіраванай дзейнасьцю некаторых адзінак, змагаючых мяне як ворага масонства,

С. Сарока.

Вільня, 18. XI. 31 г.

Ад Рэдакцыі: Як мы даведываемся, ліст гэты ня быў зьмешчаны ў „Kur. Wil." дзеля таго, што Рэдакцыя яго гэтаму рабіла перашкоды, ці проста кажучы не хацела прыняць. На паклікаьне на права Прасовае была адказана:— „Przepisy prasowe — to my!".

Рэдактар: Я. Бурак. Выд. Цэнтр. Беларускі Праваслаўны Камітэт,

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22.

